# ПЕРШАЕ ПАСЛАННЕ СВЯТОГА ПЯТРА

## 1 (1-25)

[1]Пётр, апостал Езуса Хрыста, прыхадням дыяспары Понта, Галатыі,
Кападокіі, Азіі і Бітыніі, выбраным [2]паводле прадбачання Бога Айца і
асвячаным у Духу дзеля паслухмянасці і акраплення крывёю Езуса Хрыста.
Няхай памножыцца ў вас ласка і спакой.

[3]Благаслаўлёны Бог і Айцец нашага Пана Езуса Хрыста, які праз вялікую
сваю міласэрнасць адрадзіў нас да жывой надзеі праз уваскрасенне Езуса
Хрыста, [4]да спадчыны незнішчальнай, беззаганнай і неўвядальнай, якая
захавана на нябёсах для вас, [5]умацаваных сілаю Божай праз веру дзеля
збаўлення, гатовага аб'явіцца ў апошні час. [6]Гэтаму радуйцеся, нават калі цяпер
і давядзецца трохі пасумаваць падчас розных выпрабаванняў, [7]каб праверанaя
вашая вера аказалася нашмат каштоўнейшай за тленнае золата, якое
выпрабоўваюць агнём, на славу, і хвалу, і пашану падчас аб'яўлення Езуса
Хрыста. [8]Хоць вы не бачылі, любіце Яго і, хоць цяпер не бачыце Яго, верыце ў
Яго. Весяліцеся радасцю невыказнаю і найслаўнейшаю, [9]дасягаючы мэты веры
вашай — збаўлення душ.

[10]Гэтага збаўлення шукалі і дапытваліся прарокі, якія прадказвалі
прызначаную вам ласку. [11]Яны даследавалі, на калі і на які час указваў Дух
Хрыста, які быў у іх і прадказваў цярпенні Хрыста і славу пасля гэтага. [12]Для іх
было адкрыта, што не ім, а вам служыла тое, што цяпер абвешчана тымі, хто
прапаведаваў Евангелле ў спасланым з неба Духу Святым, у што хочуць
зазірнуць нават анёлы.

[13]Таму, падперазаўшы сцёгны розуму вашага, чувайце і моцна
спадзявайцеся на ласку, якая будзе прынесена вам у аб'яўленні Езуса Хрыста.
[14]Як паслухмяныя дзеці, не дастасоўвайцеся да пажадлівасцяў, якія вы мелі
раней, у час няведання вашага, [15]але на ўзор Святога, які паклікаў вас, самі
станьце святымі ва ўсіх паводзінах вашых. [16]Бо напісана: *«Будзьце святымі,
таму што Я святы»*. [17]Калі вы называеце Айцом таго, хто непрадузята судзіць
кожнага паводле ўчынкаў ягоных, то са страхам праводзьце час вашага зямнога
вандравання, [18]ведаючы, што не тленным срэбрам ці золатам адкуплены вы ад
марнага жыцця, дадзенага вам айцамі, [19]але каштоўнаю крывёю Хрыста як
беззаганнага і чыстага Баранка. [20]Ён быў прызначаны яшчэ да стварэння свету,
але з'явіўся ў апошнія часы дзеля вас, [21]што паверылі праз Яго ў Бога, які
ўваскрасіў Яго і адарыў хвалою, каб вы мелі веру і надзею на Бога.

[22]Ачысціўшы паслухмянасцю праўдзе душы вашыя для некрывадушнай
братняй любові, чыстым сэрцам шчыра любіце адзін аднаго, [23]бо вы народжаны
зноў не з тленнага насення, але з нятленнага, праз Божае слова, якое жыве і
трывае. [24]Таму што
*ўсякае цела — быццам трава,*
*а ўся слава яго – быццам цвет травы:*
*трава завяла — і апаў цвет.*
[25]*А слова Пана трывае навекі.*

І гэтым словам ёсць Добрая Навіна, абвешчаная вам.

## 2 (1-25)

1Таму, адкінуўшы ўсякую злосць і ўсякі подступ, крывадушнасць і
зайздрасць ды ўсякае зласлоўе, 2як нованароджаныя немаўляты, жадайце
чыстага малака слова, каб праз яго ўзрастаць для збаўлення, 3бо вы
*пакаштавалі, які добры ёсць Пан*. 4Прыступаючы да Яго, жывога каменя,
адкінутага людзьмі, але выбранага Богам, каштоўнага, 5і вы самі, як жывыя
камяні, будуйцеся ў дом духоўны, святарства святое, каб прыносіць духоўныя
ахвяры, прыемныя Богу, праз Езуса Хрыста. 6Бо сказана ў Пісанні:
«*Вось я кладу на Сіёне вуглавы камень, выбраны, каштоўны,*
*і хто верыць у Яго, не асароміцца*».
7Таму, для вас, веруючых, Ён — каштоўнасць, а для няверуючых —
«*камень, які адкінулі будаўнікі.*
*Ён стаў галавою вугла*»,
8і *«каменем спатыкнення і скалой спакусы»*. Яны спатыкаюцца аб яго, бо не
пакараюцца слову, дзеля гэтага яны і пакінуты.
9Вы ж — *выбраны род, каралеўскае святарства, народ святы, люд, узяты
Богам ва ўласнасць, каб абвяшчаць цноты* таго, хто паклікаў вас з цемры ў
цудоўнае сваё святло; 10калісьці не народ, а цяпер *народ Божы*; *калісьці вы не
былі памілаваныя,* а *цяпер памілаваныя*.
11Умілаваныя, я заклікаю вас як чужынцаў і вандроўнікаў устрымлівацца
ад цялесных пажадлівасцяў, што ваююць супраць душы. 12Сярод язычнікаў
паводзьце сябе добра, каб, нягледзячы на тое, што абгаворваюць вас як
злачынцаў, яны ўбачылі добрыя ўчынкі вашыя і праславілі Бога ў дзень
наведзін.
13Падпарадкоўвайцеся кожнай людской уладзе дзеля Пана: ці то каралю, як
найвышэйшаму ўладару, 14ці то кіраўнікам, што пасланы ім для пакарання
злачынцаў і для пахвалы дабрачынцаў. 15Бо воля Божая ў тым, каб, робячы
дабро, прымушалі замаўчаць невуцтва неразумных людзей. 16Паводзьце сябе як
слугі Божыя і свабодныя людзі, а не як тыя, што выкарыстоўваюць свабоду для
прыкрыцця зла.
17Паважайце ўсіх, любіце братэрства, бойцеся Бога, шануйце караля.
18Слугі, з усёй бояззю падпарадкоўвайцеся гаспадарам, і не толькі добрым і
лагодным, але і суровым. 19Бо гэта ласка, калі нехта пакутуе з думкаю пра Бога,
церпячы несправядліва. 20Якая вам пахвала, калі б’юць вас за правіны? Але калі
чыніце дабро і церпіце, то маеце ласку ў Бога. 21Вы для таго пакліканы;
бо і Хрыстус цярпеў за вас,
пакідаючы вам прыклад,
каб вы ішлі следам за Ім.
22Ён *не ўчыніў граху, і не было падману ў вуснах Яговых*.
23Ён, калі Яму зласловілі, не зласловіў у адказ,
калі цярпеў, не пагражаў,
але davяраў сябе таму, хто судзіць справядліва.
24*Ён сам*, у сваім целе *ўзнёс грахі* нашыя на дрэва,
каб мы, пазбыўшыся грахоў, жылі дзеля справядлівасці.
*Ранамі* Яго *вы аздароўленыя*.

[25]Бо вы былі, *як авечкі, што заблукалі*, але цяпер вы вярнуліся да Пастыра і
Ахоўніка душ вашых.

## 3 (1-22)

[1]Таксама і вы, жанчыны, падпарадкоўвайцеся сваім мужам, каб, тыя з іх,
якія непаслухмяныя слову, паводзінамі жанчын былі здабытыя без слова, [2]калі
ўбачаць вашыя беззаганныя і богабаязныя паводзіны. [3]Няхай аздобаю вашай
будзе не вонкавае заплятанне валасоў, не залатое ўпрыгожанне ці хараство
адзення, [4]але ўкрыты чалавек сэрца ў незнішчальнасці лагоднага і рахманага
духу, які вельмі каштоўны для Бога. [5]Бо гэтак некалі і святыя жонкі, якія
спадзяваліся на Бога, упрыгожвалі сябе, падпарадкоўваючыся сваім мужам.
[6]Гэтак Сара была паслухмянай Абрагаму, называючы яго гаспадаром. Вы сталі
яе дзецьмі, бо робіце дабро і не баіцеся нічога страшнага.
[7]І вы, мужы, разумна жывучы з імі, як слабейшаму жаночаму начынню
аддавайце пашану, будучы суспадкаемцамі ласкі жыцця, каб не ставіць
перашкодаў малітве вашай.
[8]Нарэшце, будзьце ўсе аднадумцамі, чулымі, любячымі братоў,
міласэрнымі, пакорнымі. [9]Не аддавайце злом за зло ці знявагай за знявагу, але
наадварот, благаслаўляйце, бо дзеля гэтага вы пакліканы, каб унаследаваць
благаслаўленне.
[10]Бо хто *хоча любіць жыццё*
*і ўбачыць шчаслівыя дні,*
*няхай стрымлівае язык ад зла,*
*а вусны — ад подступу.*
[11]*Няхай адвернецца ад зла і робіць дабро,*
*няхай шукае спакою і ідзе за ім.*
[12]*Бо вочы Пана скіраваны на справядлівых,*
*і вушы Яго — на іхнія просьбы,*
*але аблічча Пана супраць тых, хто чыніць зло.*
[13]Калі будзеце рупліўцамі дабра, то хто будзе вам шкодзіць? [14]Калі церпіце
за справядлівасць, вы шчаслівыя! *А пагрозаў іхніх не бойцеся і не палохайцеся.*
[15]Хрыста *Пана свяціце* ў сэрцах вашых, будзьце заўсёды гатовымі даць адказ
кожнаму, хто патрабуе ад вас слова пра вашу надзею. [16]Але рабіце гэта лагодна,
з бояззю Божай і добрым сумленнем, каб у тым, за што абгаворваюць вас як
злачынцаў, былі асаромлены тыя, хто ганіць вашае добрае жыццё ў Хрысце.
[17]Таму што лепей, калі ў гэтым воля Божая, цярпець за добрыя ўчынкі, чым за
благія. [18]Бо і Хрыстус раз пацярпеў за грахі, справядлівы за несправядлівых, каб
прывесці вас да Бога. Забіты ў целе, але ажыўлены ў Духу. [19]У Ім таксама Ён
прыйшоў абвяшчаць тым духам, што ў вязніцы, якія некалі былі непакорнымі,
[20]калі Божая доўгацярплівасць чакала ў дні Ноя, у час пабудовы каўчэга, на
якім нямногія, усяго восем душ, ураталіся ад вады. [21]Яна і вас сёння, паводле
гэтага ўзору, ратуе праз хрост, не праз абмыццё цялеснага бруду, але праз
абяцанне Богу добрага сумлення, праз уваскрасенне Езуса Хрыста, [22]які,
узышоўшы на неба, знаходзіцца праваруч Бога, і якому пакарыліся анёлы і
ўлады, і моцы.

## 4 (1-19)

1 Паколькі Хрыстус цярпеў за нас у целе, вы таксама ўзбройцеся той жа
думкай, бо той, хто выцерпеў пакуты цела, скончыў з грахом, 2 каб астатні час у
целе жыць ужо не для людской пажадлівасці, але для волі Божай. 3 Хопіць і
ранейшага часу, калі вы спаўнялі волю язычнікаў, жылі ў распусце,
пажадлівасці, п’янстве, гулянках і п’янках, і нягодным ідалапаклонстве. 4 Яны і
здзіўляюцца, што вы не занураецеся разам з імі ў адну плынь распусты, і
зневажаюць вас. 5 Яны здадуць справаздачу таму, хто гатовы судзіць жывых і
мёртвых. 6 Бо для таго і мёртвым было абвешчана Евангелле, каб яны падлеглі
суду як людзі ў целе, а жылі паводле Божага духу.

7 Набліжаецца канец усяго. Таму будзьце разважлівыя і чувайце ў малітве.
8 Перш за ўсё, майце шчырую любоў адзін да аднаго, таму што любоў закрывае
мноства грахоў. 9 Будзьце гасцінныя адзін да аднаго без нараканняў. 10 Як
добрыя распарадчыкі разнастайнай ласкі Божай, служыце адзін аднаму тым
дарам, які кожны з вас атрымаў. 11 Калі хто прамаўляе, няхай прамаўляе, як
словы Божыя; калі хто служыць, няхай служыць дзякуючы моцы, якою надзяліў
яго Бог, каб ва ўсім праславіўся Бог праз Езуса Хрыста, якому слава і панаванне
на векі вечныя. Амэн.

12 Умілаваныя, не дзівіцеся агню, які палае ў вас дзеля выпрабавання
вашага, нібы здарылася з вамі нешта дзіўнае. 13 Але паколькі вы прымаеце ўдзел
у муках Хрыстовых, радуйцеся, каб і ў час аб’яўлення славы Яго вы
ўсцешыліся і ўзрадаваліся. 14 Калі ганяць вас за імя Хрыста, то вы шчаслівыя, бо
Дух славы і Дух Божы спачывае на вас. 15 Таму няхай ніхто з вас не церпіць як
забойца або злодзей, або як злачынец, або як сквапны да чужога. 16 Калі ж нехта
церпіць як хрысціянін, няхай не саромееца, але праслаўляе Бога за гэта імя.

17 Бо ўжо час, каб распачаўся суд з Божага дому. Калі ж ён распачнецца з
нас, дык які будзе канец тых, хто не слухаецца Евангелля Божага?

18 *«І калі праведнік з цяжкасцю атрымае збаўленне,*
*дзе апынуцца бязбожнік і грэшнік?»*

19 Дык няхай тыя, хто церпіць з волі Бога, перададуць Яму як вернаму
стварыцелю свае душы, робячы дабро.

## 5 (1-14)

1 Старэйшых сярод вас я заклікаю як адзін са старэйшых, як сведка
цярпенняў Хрыстовых і супольнік славы, што павінна адкрыцца. 2 Пасвіце
статак Божы, што пры вас, наглядаючы за ім не пад прымусам, але
добраахвотна, згодна з воляй Божай, не дзеля агіднай нажывы, але са шчырым
жаданнем. 3 Не злоўжывайце ўладаю над падданымі, але станьце прыкладам для
статка. 4 А калі з’явіцца Найвышэйшы Пастыр, вы здабудзеце неўвядальны
вянок славы.

5 Таксама вы, малодшыя, падпарадкоўвайцеся старэйшым. Апраніцеся ўсе
ва ўзаемную пакору, таму што

*Бог супраціўляецца ганарыстым,*
*а пакорным дае ласку.*

[6]Дык станьце пакорнымі пад моцнаю рукою Божаю, каб Ён узвысіў вас у
адпаведны час. [7]Усялякі свой клопат ускладзіце на Яго, бо Ён клапоціцца пра
вас. [8]Будзьце цвярозымі, чувайце. Праціўнік ваш, д’ябал, як леў кружыць з
рыкам, шукаючы, каго пажэрці. [9]Моцныя ў веры, станьце супраць яго,
ведаючы, што такія ж цярпенні зведваюць і вашыя браты, што ў свеце.

[10]А Бог усялякай ласкі, які паклікаў вас да сваёй вечнай славы ў Хрысце
Езусе, пасля таго як крыху пацерпіце, сам удасканаліць, загартуе, умацуе і
зробіць вас непахіснымі. [11]Яго панаванне на векі. Амэн.

[12]Праз Сільвана, які здаецца мне верным братам, я коратка напісаў вам,
заахвочваючы і сцвярджаючы, што такая ёсць сапраўдная ласка Божая, у якой
трываеце. [13]Вітае вас выбраная, як і вы, супольнасць у Бабілёне, а таксама
Марк, сын мой. [14]Прывітайце адзін аднаго пацалункам любові.

Спакой усім вам, якія трываеце ў Хрысце.

---